# НАВІНЫ

Выданьне Арганізацыйнага камітэту.

1(3)1989

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»


## 15 ПУНКТАЎ ПЕРАДВЫБАРЧАЙ ПЛАТФОРМЫ БНФ

26 студзеня сканчаецца тэрмін вылучэньня кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР. А яшчэ праз два месяцы стане ясна, ці здольныя мы самі ствараць сваю гісторыю, альбо вартыя толькі таго, каб за казённыя маршы і буфет у выбарчым участку аддаваць звыклыя 99,98 працэнта галасоў свайго бяспраўя. Шмат хто нібыта і разумее гэта, але разьлічвае, што ў дзень выбараў перабудова і дэмакратыя прыйдуць самі сабой.

Тым часам зноў складаюцца кабінетныя сьпісы з традыцыйнымі імёнамі ў іх. Справа тут, вядома, не ў паасобных непапулярных кіраўніках рэспублікі /пра такіх у народзе кажуць: "Пабыў у вадзе і ня мокры ідзе"; на іхнім месцы нават члены буржуазных урадаў падалі б у адстаўку/, а ў сістэме. Бо нават калі мы пераменім усіх, а механізм улады пакінем некранутым, зварот да старога непазьбежны. Таму ніхто з нас не павінен застацца ў баку ад выбарчых справаў, у каторы раз аддаўшы ініцыятыву ў рукі функцыянераў. Наш лёс будзе шмат у чым залежаць ад таго, як пройдуць выбары і хто будзе ў Вярхоўным Савеце СССР. Альбо там апынуцца людзі, здольныя толькі разважаць пра дэмакратыю і адначасна прымаць антыдэмакратычныя законы, альбо там стануць працаваць сумленныя абаронцы нашых чалавечых правоў і народнага лёсу.

Перадвыбарчая платформа БНФ "Адраджэньне" грунтуецца на прынцыпах, абвешчаных яшчэ ў 1917 годзе: заводы -- рабочым, зямля -- сялянам, улада -- народу.

**1.** Адна з галоўных задачаў перабудовы -- вызначыць, хто і на каго працуе. Недапушчальна, каб прадпрыемствы працягвалі заставацца прыдаткамі міністэрстваў. Толькі вызваленьне эканомікі ад ведамасных путаў можа прывесьці да насычэньня ўнутранага рынку таварамі і росту жыцьцёвага ўзроўню. Дзеля гэтага дэпутаты, выкарыстоўваючы свае паўнамоцтвы, мусяць дабівацца радыкальнай эканамічнай рэформы, якая ўключае ў сябе поўную гаспадарчую самастойнасьць прадпрыемстваў і поўную адказнасьць рэспублік за сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё сваіх тэрыторыяў.

**2.** Неабходна прыняць Закон аб арэндзе прадпрыемстваў працоўнымі калектывамі. Калектывы павінны таксама атрымаць права пераходзіць на кааператыўныя ўмовы дзейнасьці. Пасьля гэтага яны пазбавяцца падпарадкаваньня міністэрствам і ведамствам, стануць самастойныя, атрымаюць рэальную магчымасьць пераходу на гаспадарчы разьлік, і іх дзейнасьць будзе рэгламентавацца Законам аб кааперацыі.

**3.** Сталінізм і стагнацыя нанесьлі велізарную шкоду сельскай гаспадарцы. Сяляне былі адчужаныя ня толькі ад зямлі, але і ад плёну свае працы. Цэнтралізаваныя разнарадкі і нізкія закупачныя цэны не дазвалялі ім самім вырашаць, што сеяць і вырошчваць, каму і за колькі прадаваць сваю прадукцыю. Гэтае законнае права можа быць вернутае магчымасьцю ператварэньня існых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у кааператывы або фермерскія гаспадаркі. Ім зямля павінна прадстаўляцца ў бестэрміновую арэнду /бяз права продажу/ з правам спадкаваньня.

**4.** Мы стаміліся ад дэфіцыту. Не хапае элементарных тавараў першай неабходнасьці, прадуктаў харчаваньня, кватэраў, дзіцячых садкоў і школаў. Немагчыма прадбачыць, што зьнікне з прылаўкаў заўтра. Дый хто можа паручыцца, ці не наўмысна арганізуецца дэфіцыт, каб падтрымліваць у людзей стан нервознай незадаволенасьці перабудовай? Сьпецыяльныя дэпутацкія камісіі павінны публічна аналізаваць прычыны дэфіцыту, ажыцьцяўляць рэальны грамадскі кантроль за якасьцю і колькасьцю прадуктаў і спажывецкіх тавараў. Неабходна прыняць дзейсныя захады, каб прадукцыя, выробленая ў рэспубліцы, не рабілася дэфіцытнай для саміх вытворцаў.

**5.** У краіне адбываюцца грубыя парушэньні сацыяльнай справядлівасьці. Дакуль можна мірыцца з існаваньнем закрытых разьмеркавальнікаў, сьпецлячэньня, сьпецзабесьпячэньня і іншых сьпецвыгодаў? Неабходна неадкладна адмяніць сістэму наменклатурных партыйных, дзяржаўных і ведамасных пасадаў і зьвязаных з імі сацыяльных прывілеяў. Адзінай крыніцай росту дабрабыту чалавека павінны быць толькі зробленыя сумленнай працай грошы.

**6.** На працягу апошніх дзясяткаў гадоў мы адкладвалі на потым вырашэньне цэлага шэрагу сацыяльных праблемаў. Калі і сёньня праігнараваць іх, выбух будзе непазьбежны. Неабходна:

- узаконіць абавязковую дзяржаўную кампенсацыю росту індэксу цэнаў падвышэньнем заработнай платы;
- гарантаваць пяцідзённы рабочы тыдзень для ўсіх катэгорыяў працоўных;
- рэфармаваць сістэму пенсійнага забесьпячэньня: пенсіі павінны складаць ня менш як 60% ад сярэдняга заробку чалавека і расьці прапарцыйна росту цэнаў;
- падвысіць заработную плату высокакваліфікаваным работнікам разумовай працы: інжынерна-тэхнічным работнікам, настаўнікам і выкладчыкам, работнікам культурна-асьветнай сьферы, навуковай і творчай інтэлігенцыі, а таксама малодшаму медыцынскаму персаналу;
- узаконіць 24-дзённы мінімальны чарговы адпачынак для ўсіх катэгорыяў працоўных, у тым ліку вайскоўцаў тэрміновае службы;
- рэзка павысіць узровень масавае пазаведамаснае медыцынскае абслугі і заканадаўча замацаваць яе бясплатны мінімум у адпаведнасьці са стандартамі і рэкамендацыямі Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя;
- пашырыць права спадчыны на членаў жыльлёва-будаўнічых кааператываў і адмяніць дзяржпошліну на пераход жыльля па спадчыне;
- заканадаўча замацаваць права маці мець трохгадовы /у перспектыве -- сямігадовы/ аплочаны адпачынак для догляду дзіцяці. За кошт пераразьмеркаваньня грамадскіх фондаў скараціць /пры захаваньні заробку/ працоўны дзень жанчын, што выхоўваюць непаўналетніх дзяцей.

**7.** З агульнай тэрыторыі СССР, якая забруджана радыяцыяй пасьля аварыі ў Чарнобылі, найбольшая частка прыпадае на Беларусь. Ас-

/Працяг на стар. 2/

/Працяг са стар. 2/ 15 ПУНКТАЎ ПЕРАДВЫБАРЧАЙ ПЛАТФОРМЫ БНФ

...тняе -- на Украіну і Бранскую вобласьць РСФСР. Дагэтуль няма цэласнага ўяўленьня пра радыяцыйную сітуацыю ў гэтых раёнах. З упэўненасьцю можна сказаць толькі тое, што яшчэ не адно пакаленьне беларусаў і украінцаў будзе ставіцца да разьвіцьця "мірнага атаму" са змрочнай іроніяй. Неабходна прыняць дзейсныя захады дзеля тэрміновага выпраўленьня экалагічных, сацыяльных, псіхалагічных і медыцынскіх вынікаў аварыі:

- абвясьціць зонай трывогі усходнія раёны БССР /разам з суседнімі раёнамі УССР і РСФСР/;
- сканцэнтраваць усе дадзеныя пра радыяцыйную забруджанасьць у адным міжведамасным цэнтры /напрыклад, Дзяржкампрыроды БССР/ і надаць яму надзвычайныя паўнамоцтвы;
- скласьці і абнародаваць карты радыяцыйнай забруджанасьці;
- з месцаў, дзе перавышаны узровень радыяцыі, тэрмінова выселіць дзяцей;
- забараніць у пацярпелых раенах выраб сельскагаспадарчай прадукцыі;
- вылучыць з дзяржаўнага бюджэту СССР значныя дадатковыя сродкі на ліквідацыю бліжэйшых і адлеглых вынікаў аварыі;
- абвясьціць мараторый на будаўніцтва АЭС і іншых экалагічна небясьпечных прадпрыемстваў на тэрыторыі БССР і прылеглых раёнах суседніх рэспублік, вылучыць бюджэтныя сродкі на разьвіцьцё экалагічна чыстай энергетыкі.

**8.** Асноўную шкоду прыродзе Беларусі прыносяць заводы-гіганты, падпарадкаваныя саюзным міністэрствам і ведамствам. У Магілёве, Наваполацку, Салігорску, Гародні, Гомелі людзі захлынаюцца ад атруты і прамысловых выкідаў. Дзеля паляпшэньня экалагічнага становішча і прадухіленьня зьвязаных з міграцыяй сацыяльных праблемаў трэба дамагацца с п ы н е н ь н я б у д а ў н і ц т в а н о в ы х п а д о б н ы х п р а д п р ы е м с т в а ў. У рэспубліцы наогул нельга будаваць прадпрыемствы, не забясьпечаныя мясцовай сыравінай і працоўнымі рэсурсамі. Саюзныя міністэрствы і ведамствы павінны кампенсаваць шкоду, нанесеную прыродзе і здароўю людзей.

**9.** Дзеля рэалізацыі законнага права кожнага народу быць гаспадаром на сваёй зямлі трэба прыняць н о в ы С а ю з н ы д а г а в о р, што ператорыць СССР у сапраўдны Саюз суверэнных савецкіх дзяржаваў, якім уяўляў яго У.І.Ленін. Саюзны ўрад павінен мець каардынацыйныя функцыі, а рэспубліка -- валодаць правам вета на рашэньні, што супярэчаць яе інтарэсам.

**10.** Адно са значных дасягненьняў дэмакратыі -- прамыя і роўныя выбары. Неабходна п е р а г л е д з е ц ь З а к о н а б в ы б а р а х, каб забясьпечыць свабоднае спаборніцтва паміж сабой усіх кандыдатаў, якія б арганізацыі яны не прадстаўлялі.

**11.** Падзеі 30 кастрычніка ў Менску, калі быў гвалтоўна разагнаны мітынг-рэквіем "Дзяды", яшчэ раз пацьвердзілі, што неабходна а д м я н і ц ь З а к о н а б п а р а д к у а р г а н і з а ц ы і і п р а в я д з е н ь н я м і т ы н г а ў і З а к о н а б с ь п е ц п а д р а з ь д з я л е н ь н я х.

**12.** Толькі нядаўна ў саюзным друку была шырока апублікаваная "Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека", якую СССР падпісаў у 1948 годзе. Дагэтуль мала хто з нас знаёмы з поўным тэкстам Хельсінскіх пагадненьняў 1968 году. Простая спроба чалавека выехаць за мяжу, пакрытыкаваць члена ўраду або скарыстаць права на свабоду друку расцэньваецца бюракратыяй амаль як замах на асновы сацыялістычнай дзяржаўнасьці. Неабходна:

- прыняць З а к о н а б с в а б о д з е р у х у, скасаваць прапіску, забясьпечыць кожнаму грамадзяніну права выязджаць у любую краіну і вяртацца на радзіму;
- прыняць З а к о н а б д з я р ж а ў н а й б я с ь п е ц ы С С С Р, згодна з якім Саветы будуць кантраляваць дзейнасьць КДБ;
- прыняць З а к о н а б д р у к у, які б забясьпечваў рэальную свабоду слова, права на здабыцьцё і пашырэньне інфармацыі;
- утварыць Канстытуцыйны суд СССР;
- прыняць З а к о н а б с в а б о д з е с у м л е н ь н я, які б прадугледзіў вяртаньне гвалтоўна адабраных храмаў вернікам і не дапушчаў вядзеньня атэістычнай прапаганды коштам дзяржаўных сродкаў;
- пасьля прыняцьця Канстытуцыяў саюзных рэспублік перадаць на усенароднае абмеркаваньне п р а е к т К а н с т ы т у ц ы і С С С Р, у якім будуць прадугледжаны гарантыі усіх дэмакратычных свабодаў, раўнапраўнасьць любых палітычных і грамадскіх арганізацыяў перад законам і дзяржавай.

**13.** Сталінізм, як антычалавечы дзяржаўна-палітычны рэжым, нанес велізарную шкоду усім народам. На Беларусі сімвалам сталінскага генацыду сталі Курапаты. Каб абудзіць сумленьне людзей, вярнуць ім годнасьць і павагу, не дапусьціць паўтарэньня трагедыі, неабходна:

- раскрыць архівы і апублікаваць усе зьвесткі і матэрыялы пра злачынствы сталіншчыны;
- дабіцца суда над Іосіфам Сталіным і яго акружэньнем;
- у Канстытуцыі СССР павінна быць зробленая п а п р а ў к а а б а д к а з н а с ь ц і з а з л а ч ы н с т в ы с т а л і н ш ч ы н ы, за прапаганду сталінізму, аб нераспаўсюджаньні на гэтыя злачынствы тэрміну даўнасьці;
- абавязак дзяржаўных органаў -- праводзіць спрыяльную сацыяльную палітыку ў дачыненьні да пацярпелых ад сталінскага рэпрэсіўнага рэжыму, да непрацаздольных асобаў з сем'яў закатаваных і забітых.

**14.** Ленінскія прынцыпы моўнай палітыкі прадугледжвалі адсутнасьць адзінай замацаванай законам дзяржаўнай мовы для саюза раўнапраўных рэспублік і прыярытэт нацыянальных моваў на сваіх гістарычных і этнічных тэрыторыях. Дзеля зьдзяйсьненьня гэтых прынцыпаў неабходна распрацаваць і прыняць А с н о в ы м о ў н а г а з а к а н а д а ў с т в а.

**15.** Прыктыку усенароднага абмеркаваньня трэба распаўсюдзіць на у с е законы, якія прымаюцца Вярхоўным Саветам СССР. Неабходна распрацаваць З а к о н а б р э ф е р э н д у м е.

## ЯНЫ ВАРТЫЯ ДАВЕРУ

Паколькі мінулы нумар "Навінаў" рыхтаваўся сьпешна, у ім былі зьмешчаныя звычайныя энцыклапедычныя біяграфіі кандыдатаў БНФ. Гэтага відавочна недастаткова. Крытыку ў свой адрас прызнаем цалкам слушнаю і ніжэй робім спробу даць нешта накшталт перадвыбарчай рэкламы кандыдатаў. Ужо вядомыя чыста біяграфічныя зьвесткі апускаем.

УВАГА! Па тэрытарыяльнай выбарчай акрузе №563 /Ленінскі, Кастрычніцкі і Цэнтральны раёны г. Мінска/, дзе кандыдатура не была вызначаная, Аргкамітэт прапануе вылучаць Анатоля ГРЫЦКЕВІЧА або Аляксея МАРАЧКІНА. Па ТВА №566 /Першамайскі і Савецкі раёны г. Мінска/, апрача Віктара ІВАШКЕВІЧА, -- Аляксандра ЖУРАЎЛЁВА.

**АДАМОВІЧ Алесь Міхайлавіч:**

"Азірніся навокал! Мінулае чакае нашага сьмелага, бязбоязнага узіраньня. Яно гатовае прыйсьці да нас на дапамогу, прыходзіць у барацьбе за будучыню, за гуманны, прававы, па-

/Працяг на стар. 5/

